# БЮЛЕТЭНЬ

Беларускага рэспубліканскага камітэту прафэсыянальнага саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў С. С. С. Р.

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

Менск, Пляц волі,
— Дом працы —

ТЭЛЕФОНЫ:
Старшыні ЦП № 4-08
Арган. сэктар № 4-08

№ 11 — 15-га студзеня 1932 г. — № 11





ЗЬМЕСТ.

1. Пастанова 3-га пашыранага пленуму Рэсп. к-ту саюзу РЖС аб выкананьні прамфінпляну за 11 месяцаў 1931 г. і кантрольных лічбах на 1932 год па саўгасах „Сьвінавод“, Малочна-прамысловым і Птушка-трусагадоўчым трэстах.
2. Пастанова 3-га пленуму Рэсп. к-ту саюзу РЖС аб папярэдніх выніках выкананьня сацыялістычнага дагавору з Заходня-абласным к-там н-саюзу
3. Пастанова 3-га пленуму Рэсп. к-ту саюзу РЖС аб становішчы арганізацыі працы ў саўгасах і далейшыя мерапрыемствы.
4. Пастанова прэзыдыуму Рэсп. к-ту саюзу РЖС аб ліквідацыі запазычанасьці па заработнай плаце рабочым саўгасаў.
5. Пастанова прэзыдыуму Рэсп. к-ту саюзу РЖС па дакладу Нар. Кам. Аховы здароўя аб мэдыка-санітарным абслугоўваньні рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў.
6. Пастанова прэзыдыуму Рэсп. к-ту саюзу РЖС аб арганізацыі ў саўгасах ячэек таварыства вынаходніцтва і разгортваньні работы па масавай рацыяналізацыі і вынаходцтве.
7. Часовае палажэньне аб ячэйцы таварыства вынаходцаў у саўгасах.
8. Указаньне ўсім рабачкомам саўгасаў, мясцкомам, прафкомам і рэвізійным камісіям аб нормах выдаткаў на 1932 год да атрыманьня зацьверджаных каштарысаў і дасылцы каштарысаў на 1932 год.
9. Пастанова Ўсебеларускай нарады дырэктароў саўгасаў аб папярэдніх выніках выкананьня прамфінпляну за 1931 год і задачы на 1932 год.



## ПАСТАНОВА

**III-га пашыранага пленуму рэспубліканскага камітэту саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў аб выкананьні прамфінпляну за 11 месяцаў 1931 году і кантрольных лічбах на 1932 год па саўгасах „Сьвінавод“, Малочна-прамысловым і Птушка-трусагадоўчым трэстах.**

Заслухаўшы даклады трэстаў аб выкананьні прамфінплянаў за 11 месяцаў 1931 г. і кантрольных лічбах на 1932 год пленум Рэсп. к-ту саюзу адзначае, што:

На падставе **правільнай генэральнай лініі камуністычнай партыі** рабочая кляса дабілася вялізарных посьпехаў на ўсіх франтох сацыялістычнага будаўніцтва. Значна ўзрасла матар'яльная база сацыялізму. **Узмацніліся тэмпы індустрыялізацыі.** Падведзена вялікая тэхнічная база пад сацыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі. Больш паловы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак увайшлі ў калгасы. На базе суцэльнай калектывізацыі і ліквідуецца кулацтва, як кляса.

Збожжавая праблема ў асноўным ужо вырашана. Вырашэньне жывёлагадоўчай праблемы пастаўлена, як цэнтральная задача. На фоне ўсіх гэтых дасягненьняў пленум канстатуе значныя дасягненьні і ў разьвіцьці жывёлагадоўчых саўгасаў БССР, менавіта:

1) Праведзена вялікая работа па далейшай спэцыялізацыі саўгасаў. Арганізавана 85 сьвінагадоўчых саўгасаў, 72 малочна-прамысловых і 10 птушка-крольчатых саўгасаў.

2) Па саўгасах „Сьвінавода“ зямельная тэрыторыя павялічылася з 38.000 га на I-I-31 г. да 158.000 га на I-XII-31 г.

у тым ліку пахаці 88.000 га. Агульнае пагалоўе сьвіней павялічылася да 70.000 шт., з іх сьвінаматак—28.000 (было на І-І-31 г.—12.000). Здана дзяржаве 14.909 таварных сьвіней, 584 цэнтнэры масла, 1533 цэнт. сыравіны і гародніны. Пагалоўе кароў даведзена да 6000 шт. Пабудавана 65000 сьвінамесц.

3) Па саўгасах малочна-прамысловага трэсту зямельная тэрыторыя ўзрасла з 89.000 га (былы Белсаўгастрэст) да 156.000 га. Агульнае пагалоўе прадукцыйнай жывёлы ўзрасло да 27.800 шт. (было на І-І-31 г.—20.000 шт.). Здана дзяржаве 43.313 цэнтн. малака, у тым ліку 1119 цэнт. масла. 1766 цэнт. сыру, плян па мясе выканан на 117 проц. Здана 42745 цэнтнараў садавіны і гародніны і г. д.

4) Пленум з усёй рашучасьцю падкрэсьлівае, што адозва ЦК УсеКП(б) і СНК СССР, ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі і 6-ці ўмоў т. Сталіна далёка невыстарчальна рэалізуецца ў барацьбе за выкананьне прамфінплянаў 3-га рашаючага году пяцігодкі. Сьвінагадоўля і жывёлагадоўля ў рабоце трыкутнікаў саўгасаў яшчэ не пастаўлена, як цэнтральная задача.

5) Яшчэ невыстарчальна разгорнута сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў саўгасах. Не ўкарэнен гасразьлік, не ліквідавана абязьлічка і ўраўнілаўка. Слаба праводзіцца прагрэсыўна-зьдзельна-прэміяльная сыстэма аплаты працы. У выніку дрэннай арганізацыі працы і невыстарчальнай увагі да палепшаньня сацыяльна-бытавых умоў, наглядаецца яшчэ вялікая цякучасьць рабочай сілы ў саўгасах.

6) У многіх саўгасах наглядаюцца месьніцкія буржуазныя тэндэнцыі скрыць ад здачы дзяржаве таварную прадукцыю. У большасьці саўгасаў наглядаецца разбазарваньне прадукцыі, не эканомнае расходваньне кармоў. Яшчэ і да гэтага часу пануе безгаспадарчасьць, вялікія страты, высокі сабекошт прадукцыі, вельмі дрэнная якасьць работы. Няма належнай барацьбы за мабілізацыю ўнутраных рэсур-

саў. Невыстарчальна вядзецца барацьба за асваеньне агратэхнікі і высокую ураджайнасьць у саўгасах.

7) У выніку пералічаных вышэй недапушчальных недахопаў пленум лічыць нездавальняючым выкананьне прамфінпляну 3-га рашаючага году:

Па саўгасах „Сьвінавода“:

а) Плян здачы таварнай прадукцыі па сьвіньнях выканан на 55 проц. Па камплектаваньні агульнага сьвінного пагалоўя на 47 проц., па матачным складзе—на 74 проц. Па будаўніцтве на 86 проц., па асеньняй злучцы сьвіней—на 40 проц., па сіласаваньні—на 48 проц., па зябі—на 45,3 проц. Адыход дарослых сьвіней складае 10 проц., маладняка—29 проц., парасят—36 проц.

б) Па саўгасах малочна-прамысловага трэсту плян камплектаваньня кароў выканан на 79 проц., маладняку—70 проц. Здача малочнай таварнай прадукцыі выканана на 43,2 проц. гадавога пляну. Плян будаўніцтва выканан на 70 проц., па сіласаваньні—на 38 проц., па зябі—на 45 проц.

8) На падставе патроеных тэмпаў і поўнай рэалізацыі выкананьня як адозвы ЦК партыі і ўраду аб сацыялістычнай жывёлагадоўлі, так і выкананьня 6-ці ўмоў т. Сталіна, пленум мабілізуе ўвагу, энтузіязм і самаадданасьць ударнікаў, рабочых, работніц і ІТР саўгасаў на пасьпяховую ліквідацыю стварыўшыхся прарываў, на выкананьне і перавыкананьне прамфінпляна ў мэтадамі сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва.

Ня можа быць ніводнага саўгасу, які-б сустракаў 4-ты, заключны год пяцігодкі, ня выканаўшы прамфінпляну 3-га рашаючага году. Толькі гэтыя ўмовы забясьпечаць посьпехі ў вырашэньні жывёлагадоўчай прамблемы ў 1932 годзе.

9) Пленум Рэсп. к-ту саюзу РЖС ухваляе запраектаваны аб‘ём мерапрыемстваў кантрольнымі лічбамі на 1932 г., які характарызуецца наступнымі паказчыкамі:

## Па „Сьвінаводзе“

1) Павышэньне ўраджайнасьці па зернавых культурах і клубняплодах на 15 проц., караньплодах—20 проц. і сеяных траў на 20 проц., шляхам ажыцьцяўленьня цэлага раду агратэхнічных мерапрыемстваў.

2) Давесьці агульную зямельную плошчу ў 1932 г. да 200 тысяч га, у тым ліку пахаці 120 тыс. га, пры чым абсеманіць вясною ня менш 78 тыс. га яравога кліну.

3) Пагалоўе сьвіней давесьці да 265.000 галоў, у тым ліку сьвінаматак 56,5 тыс. шляхам фармаваньня стада гадоўляй свайго маладняка. Мець ня менш 7600 буйнай рагатай жывёлы, у тым ліку закупіць 1500 кароў.

4) Давесьці здачу таварнай прадукцыі па сьвіньнях да 18.000 тон і малаку да 23.000 тон, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на другарадныя віды таварнай і экспартнай прадукцыі.

5) Падвоіць колькасьць рабочых у саўгасах, узмацніць тэхнічныя кадры, значна палепшыўшы культурна-бытавыя ўмовы рабочых.

6) Пашырыць мэліярацыйныя і культурна-тэхнічныя мерапрыемствы, вытварыўшы інтэнсыўную асушку на плошчы ня менш 2500 га, раскарчоўку на плошчы 3.000 га

7) У мэтах поўнага выкананьня аб‘ёму вызначаных мерапрыемстваў на 1932 г. устанавіць разьмер капіталаўкладаньняў ня менш 22 мільёнаў рублёў, з якіх выдаткаваць: на мэханізацыю 1.730 тысяч рублёў, пакупку с/г машын 1.200 тыс. руб., пакупку скаціны 266 тыс. руб., на будаўніцтва 14.200 т. руб., у тым ліку на жыльлёвае і культурна-бытавое ня менш 3.200 тыс. руб., на мэліярацыю сенажацяй і мінэральных глеб 1100 тыс. руб., на вадазабесьпячэньне 12.600 тыс. руб., на падрыхтоўку кадраў масавай кваліфікацыі асыгнаваць ня менш 1.800 тыс. руб., асаблівую ўвагу зьвярнуўшы на мэханізацыю і вадазабесьпячэньне з тым, каб мэханізацыю ў сьвінагадоўлі правесьці ў 50 проц. саўгасаў і на палявых работах на 75 проц.

## Па Малочна-прамысловым трэсьце.

1) Агульную зямельную плошчу павялічыць да 180.000 га, супроць 156.000 га ў 1931 г., у тым ліку пахаці 75.000 га супроць 47.000 га ў 1931 г.

2) Пасеўную плошчу павялічыць да 53.000 га супроць 27.000 га ў 1931 г.

3) Давесьці пагалоўе прадукцыйнага стада да 59.449 галоў, супроць 33.555 галоў у 1931 г., у тым ліку кароў да 30.889 галоў, супроць 17.846 галоў у 1931 г.

4) Павялічыць сярэдні гадавы ўдой асноўнага стада да 1610 літраў малака ад аднэй каровы.

5) Здаць дзяржаве ня менш 28.195 тон таварнага малака і малочных прадуктаў (масла, сыру), гэта значыць ня менш 80 проц. усёй валавой прадукцыі.

6) Правесьці мэліярацыю і культуртэхнічныя работы на плошчы 22.000 га, вытварыць паверхавае палепшаньне натуральных сенажацяй і выпасаў на плошчы 14.000 га.

7) Для правядзеньня ў жыцьцё ўсіх запраектаваных мерапрыемстваў прадугледзіць капіталаўкладаньне на суму 23.000,0 т. р.. з якіх па жывёлагадоўлі 6196,0 т. р., энэргэтыцы 1.873,0 т. р., с/г машынах і абсталяваньні 2.034.0 т. р., мэханізацыі 1.008,0 т. р., індустрыялізацыі 817,0 т. р., жыльлёвым будаўніцтве 2.000,0 т. р., культурна-бытавым 500,0 т. р. арганізацыі тэрыторыі 4.087,0 т. р., падрыхтоўцы кадраў 2. 572,0 т. р. і інш. капіталаўкладаньняў 1.912 т. р. Запраектаваную суму капіталаўкладаньняў пленум цалкам падтрымлівае і адначасова з гэтым даручае прэзыдыуму Рэсп. к-ту саюзу РЖС паставіць пытаньне перад дырэктыўнымі органамі аб зацьверджаньні паказанай сумы, з мэтай поўнага ажыцьцяўленьня намечаных мерапрыемстваў прамфінплянам.

## Па Птушка-трусагадоўчым трэсьце.

1) Агульную зямельную плошчу павялічыць супроць 10.000 га ў 1931 г. да 20.000 га ў тым ліку пахаці да

10.000 га супроць 4.000 га ў 31 г. Пасеўную плошчу давесьці да 4.300 га супроць 1642 га ў 1931 г.

2) Правесьці мэліярацыйныя і культуртэхнічныя работы на плошчы 2600 га. Правесьці павярховае палепшаньне натуральных сенажацяй і выпасаў на плошчы 1000 га.

3) Давесьці пагалоўе птушак да 85.000 галоў супроць 8.000 галоў у 1931 г. і трусоў да 25.000 г. супроць 3.000 галоў у 1931 г.

4) Здаць дзяржаве ня менш 41,9 тон таварнай прадукцыі мяса птушак і трусоў і 1.050.000 шт. яек.

5)Перадаць на племя калгасам і саўгасам як палепшаны матар'ял 30.850 галоў птушак і 1.000 трусоў.

6) Правесьці працу маючагася безгатунковага матар'ялу птушак і трусоў шляхам мэтызацыі іх з лепшымі гатункамі, ствараючы сэлекцыйныя стады.

7) Адзначаючы надзвычай вялікі адыход маладняка птушак і трусоў пленум прапануе зьвярнуць асаблівую ўвагу на догляд за птушкамі і трусамі і выхаваньнем маладняка.

8) Палепшыць санітарнае становішча птушыных, трусагадоўчых фэрм і вэтабслугоўваньне іх, забясьпечыць поўнасьцю патрэбным вэтпэрсаналам.

9) Прыняць рашучыя захады да своечасовага забесьпячэньня заводаў патрэбнай колькасьцю інкубатараў і брудароў, каб ня было затрымкі ў правядзеньні інкубацыйнай кампаніі.

10) Установіць аб'ём капіталаўкладаньняў па паасобных мерапрыемствах на 1932 г. наступны: на закупку прадукцыйнай жывёлы (птушкі, трусы) 626.000 р., будаўніцтва птушнікаў і трусатнікаў—1.727,0 т. р., мэханізацыю птушнікаў і трусатнікаў—200.0 т. р., жылбудаўніцтва—300,0 т. р. сацыяльна-бытавое—53.000 р., скотныя двары і цялятнікі—420,0 т. р., энэргетыку—300,0 т. р., с/г машыны і інвэнтар —105,0 т. р., зямляўпарадкаваньне—319.900 р. і кадры—530,0 т. р.

11) Галоўнейшай прадпасылкай для выкананьня коль-

касных і якасных паказчыкаў вытворчага пляну ў галіне жывёлагадоўлі зьяўляецца стварэньне ўстойлівай кармавой базы, у адпаведнасьці з чым пленум абавязвае ўсіх дырэктароў, рабачкомаў і агратэхнічны пэрсанал саўгасаў пры разьмеркаваньні яравога кліну па паасобных культурах абавязкова ўлічыць поўнае забесьпячэньне ўласнымі грубымі і сакавітымі кармамі ўсяго пагалоўя жывёлы. Арганізацыя штучных выпасаў, кармовыя і сілосныя культуры, каранеклубняплоды павінны заняць галоўнае месца ў севазваротах саўгасаў адпаведных трэстаў. У адпаведнасьці з чым перабудаваць севазварот і ўзяць цьвёрдую лінію па паглыбленьні спэцыялізацыі саўгасаў.

12) Для пасьпяховага правядзеньня гідратэхнічных і культуртэхнічных работ абавязаць дырэкцыю трэстаў неадкладна прыступіць да падрыхтоўчай работы па заключэньні адпаведных дагавораў па выкананьні вышукальных і мэліярацыйных работ, забясьпечыўшы поўнасьцю выкананьне вызначанай праграмы.

13) У мэтах поўнага асваеньня пасеўных плошчаў 1932 г. пленум патрабуе ад гаспадарчых трэстаў сваячасова распачаць падрыхтоўчую работу да веснавой пасеўкампаніі—складаньня насенных балянсаў, пляну перакідак сродкаў вытворчасьці, арганізацыі рамонту с/г машын, прыняўшы меры да поўнага і сваячасовага завозу ўсіх сродкаў вытворчасьці ў саўгасы. Пленум лічыць недапушчальным ігнараваньне штучных угнаеньняў (няпоўнае выкарыстаньне, адмаўленьне ад выкупу, зрыў вапнаваньня і г. д.) і патрабуе ад рабочых камітэтаў і адміністрацыі саўгасаў заразжа разгарнуць работу па максымальным выкарыстаньні ўнутраных мажлівасьцяй—вапнаваньня, тарфаваньня, збор попелу, закладка кампосту і інш.

14) Выходзячы з таго, што плян укамплектаваньня саўгасаў жывёлай і птушкамі будзе праходзіць галоўным чынам за лік гадоўлі свайго маладняка, а таксама і за лік

загатовак, пленум абавязвае ўсіх дырэктароў, рабачкомаў і спэцыялістаў саўгасаў настойліва і па-бальшавіцку змагацца за поўнае выкананьне пляну ўкамплектаваньня прадукцыйнай жывёлай.

Да гэтага часу справе палепшаньня прадукцыйнасьці жывёлы не надана належнай увагі, жывёла ўтрымоўваецца ў надзвычай дрэнных умовах. Застаўшыся час 1931 году павінен быць пераломным у напрамку вядзеньня рашучай барацьбы за чыстку і ўтрыманьне сьвінарнікаў, скотных хлявоў, птушнікаў і самой жывёлы, за лепшае і ўважлівае абслугоўваньне яе, за поўнае правядзеньне зоавэтмінімуму, за эканомнае і рацыянальнае выдаткаваньне кармоў. Зоатэхнік, сьвінавод, птушкавод, скотнік, даярка павінны ўсьвядоміць усю адказнасьць задачы па павышэньні прадукцыйнасьці жывёлы. Адзначаючы надзвычай вялікі процант адыходу маладняка, зьвярнуць увагу рабочых саўгасаў на стварэньне умоў па максымальным захаваньні ўсяго прыплоду, шляхам лепшай пастаноўкі працы па дагля дзе, выхаваньні і рацыянальным кармленьні яе, 100 проц. выкананьні пляну злучак, апаросу і інкубацыі.

Цалкам павінна быць ажыцьцёўлена дырэктыва партыі і ўраду аб здачы для задавальненьня пралетарскіх цэнтраў усёй таварнай прадукцыі мяса, малака, яек і таму павінна быць праведзена рашучая барацьба з неэканомным выдаткаваньнем і разбазарваньнем яе, ні ў якім разе не дапушчаць перавышэньня існуючых норм выдаткаваньня мяса, малака і інш. Здачу таварнай прадукцыі паставіць як адну з баявых задач у працы рабочых камітэтаў.

15) Для забесьпячэньня выкананьня запраектаваных мерапрыемстваў, своечасова, поўнасьцю падрыхтавацца і ажыцьцявіць намечаную на 1932 г. вялізарную праграму будаўніцтва; будаўніцтва павінна быць пастаўлена ў цэнтр увагі ўсёй грамадзкасьці саўгасаў, бо ад яго залежыць выкананьне галоўнейшай задачы павялічэньня стада прадукцыйнай жывёлы.

Саўгасы павінны поўнасьцю і ў зімовы час забясьпечыць сябе мясцовымі будаўнічымі матар'ямі і неабходнай колькасьцю будаўнічых рабочых да пачатку работ, замацаваўшы ўсіх будаўнічых рабочых на ўвесь час работы. Выходзячы з пляну будаўніцтва трэба ў поўнай меры выкарыстаць зімовы час на загатоўку будаўнічага матар'ялу, каб ня было зьявішч недахопу матар'ялу, якія мелі месца ў гэтым годзе. Адначасова з гэтым пленум абавязвае дырэкцыю трэстаў своечасова забясьпечыць саўгасы праектамі, каштарысамі, дабіцца своечасовага атрыманьня нарадаў на фандыруемыя будаўнічыя матар'ялы і выкананьня кропак будаўніцтва з тым, каб разгарнуць будаўніцтва такімі тэмпамі, якія гарантуюць поўнае выкананьне будаўнічай праграмы. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на якасьць будаўніцтва, пытаньне кошту яго, максымальнае і пераважнае скарыстаньне мясцовых будаўнічых матар'ялаў.

6) У адпаведнасьці са значным узмацненьнем тэхнічнай базы саўгасаў, павялічэньнем завозу трактараў, складаных с/г машын і аўтатранспарту, давядзеньнем да 75 проц. мэханізацыі працэсаў у паляводзтве і невыстарчальнай колькасьцю маючыхся кваліфікаваных кадраў, пленум абавязвае дырэктароў трэстаў неадкладна разгарнуць работу па падрыхтоўцы адпаведных кадраў спэцыялістаў, забясьпечыўшы поўнае выкананьне намячаемага пляну падрыхтоўкі кадраў праз тэхнікумы, саўгасвучы і курсы масавай кваліфікацыі. Зьвярнуць асаблівую ўвагу рабачкомаў на вылучэньне работніц і рабочых ударнікаў саўгасаў на адміністрацыйна-гаспадарчыя работы.

17) Запраектаваны аб'ём мерапрыемстваў выклікае неабходнасьць значнага павялічэньня колькасьці рабочых, асабліва для абслугоўваньня жывёлагадоўлі, таму на працягу зімовага часу павінны быць прыняты рашучыя захады па поўным укамплектаваньні саўгасаў рабочымі. Рабочыя камітэты павінны прыняць актыўны ўдзел у справе вярбоўкі рабочай сілы. Зімовы час поўнасьцю скарыстаць для

ўзьняцьця вытворчай кваліфікацыі рабочых саўгасаў, ажыцьцяўляючы лёзунг т. Сталіна „Тэхніку—у масы“.

18) Пацьвярджаючы адкрыты ліст прэзыдыуму Рэсп. К-ту саюзу РЖС, зьмешчаны ў бюлетэні № 4 аб складаньні кантрольных лічбаў на 1932 г., пленум саюзу РЖС зварочвае яшчэ раз увагу ўсіх рабочых калектываў на шырокую і дэталёвую распрацоўку кантрольных лічбаў кожнай брагадай, цэхам і асобным рабочым. Не павінна быць ніводнага саўгасу, ня высўнуўшага сваіх сустрэчных лічбаў, не перакрыўшага норм нагрузак і выпрацовак на 1932 год. Толькі пры актыўным удзеле ўсяго рабочага калектыву і ІТР, толькі пры разгорнутых сацыялістычных формах і мэтадах сацспаборніцтва і ўдарніцтва будуць поўнасьцю выкарыстаны ўсе ўнутраныя мажлівасьці да поўнага выкананьня прамфінпляну ў 4-тым, заключным годзе пяцігодкі.

---

## ПАСТАНОВА

### 3-га Пленуму Рэсп. к-ту Саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў аб папярэдніх выніках выкананьня сацыялістычнага дагавору з Заходня-абласным камітэтам н-саюзу

**Ад 3—6-га сьнежня 1931 г.**

Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі і яе ленінскага ЦК рабочая кляса Савецкага Саюзу ў бязьлітаснай барацьбе з апартуністамі ўсіх колераў дабілася вялізарнейшых посьпехаў на фронце сацыялістычнага будаўніцтва. Дзякуючы шырокай хвалі ўздыму творчага энтузіязму рабочых мас, камуністычных мэтадаў працы, выконваецца 5-цігодка за 4 гады, а па паасобных галінах за 2 $^1/_2$ гады—завяршэньне пабудовы фундаманту сацыялістычнай эканомікі ў нашай краіне.

Дзякуючы ўзросшай палітычнай актыўнасьці рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў, павялічыўся ахоп сацспаборніцтвам і ўдарніцтвам з 48,7 да 60 проц., павялічыўся рост прадукцыйнасьці працы па сьвінагадоўчых гаспадарках ад 27 да 67 проц., узрасла заработная плата рабочым вядучых прафэсій ад 18,5 проц, да 23,3.

Пленум адзначае, што заключаны сацыялістычны дагавор з Заходня-абласным камітэтам нашага саюзу даў свой практычны вынік па шырокай мабілізацыі рабочых і ІТР на выкананьне прамфінпляну 3-га, рашаючага году пяцігодкі.

Уступіла ў сацспаборніцтва з саўгасамі Заходняй вобласьці 30 саўгасаў БССР. Апрача гэтага 135 саўгасаў заключылі сацыялістычныя дагаворы з суседнімі саўгасамі і разгарнулі ўнутры саўгасаў сацспаборніцтва паміж вучасткамі і цэхамі, вынікам чаго зьяўляецца: за час заключэньня саццагавору павялічэньне пагалоўя буйнай рагатай жывёлы на 8482 шт. і ўсё стада даведзена да 20.000 шт. ужо разбуйнёных трэстаў, значны ўзрост маладняка. Сьвінное пагалоўе даведзена да 70.000 шт., з іх сьвінаматак 28.000 шт.. Па саўгасах Зах. вобласьці рост буйнай рагатай жывёлы на 22.351 шт., сьвінное пагалоўе на 3736 шт.

Да маючыхся 28.353 сьвінамесц пабудавана яшчэ 36.178 сьвінамесц, а па саўгасах Зах. вобласьці 24.844.

Пераведзены на прагрэсыўную зьдзельшчыну сьвінагадоўчыя галіны на 80 проц.

Арганізавана гасразьліковых брыгад 87 з колькасьцю 450 асоб.

Унесена 12.000 рабочых прапаноў.

Пабудавана 272 дамы замест 233, па саўгасах Зах. вобласьці 60 дамоў.

Пастуліла на адкорм 800 сьвіней і 450 штук кароў для палепшаньня грамадзкага харчаваньня, па саўгасах Зах. вобласьці 491 сьвіней.

Арганізаваны 182 тэхнічныя гурткі з колькасьцю 6781 чал. замест 5000 асоб па дагаворы.

Адначасова з гэтым пленум адзначае вялікае недавыкананьне па здачы таварнай прадукцыі—па малаку плян выкананы на 50 проц., па масьле—на 67,8 проц., па сьвініне —на 55,5 проц., плян па зябліве выканан—на 46 проц., сілос—на 41,5 проц.

Побач з гэтым пленум прызнае невыстарчальнай работу прафэсыянальных арганізацый зьверху да нізу па шырокай мабілізацыі рабочых і ІТР саўгасаў на выкананьне ўзятых па сацдагаворы абавазацельстваў. Не наладжан як сьлед вучот работы. Дрэнна пастаўлена справа па перанясеньні лепшых узораў работы ў адстаючыя саўгасы. Многімі саўгасамі заключаны сацдагавор апашляецца, палітычна не даацэньваецца і такім чынам ператвараецца ў простую звычайную праверку. Некаторыя-ж рабачкомы („Прудок“, „Вішнёўка“, „Сталіна“) зусім не заключылі сацдагавароў і гэтым самым па сутнасьці скаціліся ў апартуністычнае балота.

1) У справе поўнага выкананьня сацыялістычнага дагавору і ўзятых па ім абавязацельстваў, пленум з усёй настойлівасьцю патрабуе ад рабочых камітэтаў самага шырокага разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва, поўнай мабілізацыі актыўнасьці і энтузіязму рабочых і ІТР з тым, каб узятыя абавязацельствы па сацдагаворы бальшавіцкімі тэмпамі на працягу сьнежня месяца былі-б поўнасьцю выкананы.

2) Важнейшай баявой праграмай дзейнасьці рабочых камітэтаў павінна быць поўная рэалізацыя выкананьня 6-ці ўмоў т. Сталіна. Паставіць у цэнтр увагі пытаньні разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі, ліквідацыі абязьлічкі, ураўнілаўкі, вывучэньня станоўчага вопыту ўзорнай работы і перанясеньня яе ва ўсе зьвеньні савецкіх гаспадарак.

3) Галоўнай з галоўных задач рабочых камітэтаў зьяўляецца ўзначаленьне ініцыятывы рабочых мас, штодзеннае практычнае кіраўніцтва сацспаборніцтвам і ўдарніцтвам і арганізацыя дакладнага вучоту, перавод саўгасаў на гас-

разьлік, шырокае ўнядрэньне гасразьліковых брыгад і зьменна-сустрэчнага плянаваньня, барацьба за якасьць работы, за мабілізацыю ўнутраных рэсурсаў, за поўнае захаваньне маладняка.

4) Пленум з усёй настойлівасьцю падкрэсьлівае, што аднэй з першачарговых задач кіраўніцтва сацспаборніцтвам і ўдарніцтвам зьяўляецца разгортваньне масавай работы з рабочымі-ўдарнікамі вядучых прафэсій і далейшага стымуляваньня, пашырэньня руху ўдарніцтва шляхам пераважнага забесьпячэньня ўдарнікаў прамтаварамі, пасылкі ў першую чаргу на курорты, дамы адпачынку і г. д.

5) Пленум абавязвае вытворча-плянавы і культмасавы сэктары паглыбіць апэрацыйнае кіраўніцтва сацспаборніцтвам і практычную дапамогу рабачкомам з тым, каб кожны ўдарнік, кожны рабочы, работніца і спэцыяліст павышаў сваю клясавую сьвядомасьць, быў-бы актыўным змагаром у барацьбе за сацжывёлагадоўлю, каб ударныя мэтады працы зьявіліся штодзеннымі, сталымі мэтадамі працы ў жывёлагадоўчых гаспадарках.

6) Хутка набліжэньне сканчэньня тэрміну заключанага сацдагавору, наяўнасьць вялікіх прарываў у выкананьні прамфінплянаў 3-га рашаючага году пяцігодкі, непасрэднае ўжо ўступленьне жывёлагадоўчых саўгасаў у зімоўку, патрабуюць як ад Рэсп. к-ту, так і трыкутнікаў саўгасаў вялізарных тэмпаў работы, дакладнасьці апэрацыйнага кіраўніцтва, уменьня „па-новаму працаваць і па-новаму кіраваць“. Пленум заклікае ўсіх рабочых, работніц і спэцыялістаў патроіць сваю энэргію, энтузіязм і сьвядомасьць з тым, каб узятыя абавязацельствы па сацдагаворы (давядзеньне пагалоўя кароў да 60.650 шт., сьвіннога пагалоўя да 175.000 шт., скончыць будаўніцтва, здаць таварнай прадукцыі—малака 111000 цэнтн., масла—3404 цэнтн., сыру—2750 цэнтн., сьвіннога мяса—26.750 цэн. скончыць жыльлёвае будаўніцтва і г. д.) поўнасьцю былі-б выкананы і гэ-

тым самым забясьпечаны ўсе ўмовы да ўступленьня ў 4-ты, заключны год пяцігодкі.

7) Пленум даручае прэзыдыуму не пазьней 15-га студзеня 1932 г. заключыць сацдагавор з Зах. вобл. к-там н/саюзу на 1932 год.

---

# ПАСТАНОВА

## 3-га пашыранага пленуму Рэспубліканскага Камітэту Саюзу РЖС аб становішчы арганізацыі працы ў саўгасах і далейшыя мерапрыемствы

### Ад 3—5-га сьнежня 1931 г.

Правільная арганізацыя працы ў саўгасах і асабліва ў жывёлагадоўчых, на падставе выкананьня 6-ці ўмоў т. Сталіна —ёсьць ключ да пасьпяховага і хуткага вырашэньня жывёлагадоўчай праблемы, поўнай ліквідацыі абязьлічкі, дробна-буржуазнай ураўнілаўкі і далейшага палепшаньня матар'яльна-бытавых умоў рабочых. Асноўнай умовай арганізацыі працы зьяўляецца: мэтады шырока разгорнутага сацспаборніцтва, масавае ўнядрэньне вышэйшых яго форм, як гасразьліковая брыгада і зьменна-сустрэчнае плянаваньне, правільная расстаноўка сіл і чоткая пастаноўка апэрацыйнага вучоту работы. Ад таго, наколькі рабочыя хутка пяройдуць на індывідуальную зьдзельшчыну і прагрэсыўна-зьдзельна-прэміяльную сыстэму аплаты працы, залежаць посьпехі выкананьня прамфінплянаў, правільнай арганізацыі працы, рост вытворчасьці, зьніжэньня сабекошту прадукцыі, рост заработнай платы, ліквідацыя ўраўнілаўкі, абязьлічкі і цякучасьці рабочай сілы.

Пленум падкрэсьлівае, што толькі нязначная частка перадавых жывёлагадоўчых саўгасаў правільна паставіла справу арганізацыі працы, яны па-сапраўднаму дапасавалі

прагрэсыўна-зьдзельна-прэміяльную сыстэму аплаты, чым дабіліся большых посьпехаў. Большасьць-жа саўгасаў палітычна недаацаніла справы ўнядрэньня прагрэсыўна-зьдзельна-прэміяльнай сыстэмы аплаты, яны невыстарчальна змагаюцца за яе ўвядзеньне, не вядуць рашучай барацьбы з апартуністычнымі настроямі паасобных працаўнікоў, якія выяўляюцца ў тым, што прагрэсыўная зьдзельшчына выклікае дадатковыя цяжкасьці „па вучоту, бо кваліфікаваных вучотчыкаў у саўгасах няма“.

Работа за ўвядзеньне правільнай арганізацыі працы, за масавае ўкараненьне прагрэсыўна-зьдзельна-прэміяльнай сыстэмы аплаты, за ліквідацыю ўраўнілаўкі і абязьлічкі, за гасразьліковую брыгаду і зьменна-сустрэчнае плянаваньне, за сацыялістычны вучот не пастаўлена ў цэнтр увагі як рабочых камітэтаў, мясцовых бюро ІТР, так і дырэкцыі саўгасаў. Наглядаецца шмат выпадкаў, калі замест шырокай масавай растлумачальнай работы сярод рабочых у гэтай важнейшай справе, праводзіцца адміністраваньне і бюракратычныя загады, што па сутнасьці зьяўляецца апашленьнем вялізарнага значэньня сацыялістычнай работы.

Пленум ня можа лічыць здавальняючым, калі на прагрэсыўна-зьдзельна-прэміяльную сыстэму аплаты працы пераведзены па трэсьце „Сьвінавод“—сьвінагадоўля на 86 проц., паляводзтва на 90 проц. і павялічэньне ў сувязі з гэтым прадукцыйнасьці працы па сьвінных цэхах толькі на 24,2 проц., паляводзтве—18,7 проц. і росьце зарплаты рабочым, занятым па сьвінагадоўлі—на 36,8 проц., у паляводзтве 17,1 проц., а па саўгасах Малакапрамтрэсту і Птушкатрусагадоўчага трэсту гэтыя паказчыкі яшчэ ніжэйшыя.

Выходзячы з вышэйадзначанага, пленум для хутчэйшай рэалізацыі 6-ці ўмоў т. Сталіна лічыць неабходным і абавязковым правесьці наступныя мерапрыемствы:

1) Устанавіць канчатковым тэрмін пераходу ўсіх жывёлагадоўчых саўгасаў на прагрэсыўна-зьдзельна-прэміяльную сыстэму аплаты 1-га студзеня 1932 г. Ухваліць распраца-

ваную інструкцыю і абавязаць рабачкомы і дырэктароў саўгасаў разгарнуць масавую работу па яе папулярызацыі і забясьпечыць ва ўстаноўлены тэрмін пераход на прагрэсыўную зьдзельшчыну.

2) Даручыць Прэзыдыуму рэсп. к-ту і трэстам тэрмінова распрацаваць інструкцыі аб пераходзе на прагрэсыўна-зьдзельна-прэміяльную сыстэму аплаты спэцыялістаў саўгасаў, вінакураў і крухмальшчыкаў тэхпрадпрыемстваў, а так сама і трактарныя калёны.

3) Не пазьней 1-га студзеня 1932 г. перавесьці на гасразьлік усе вучасткі, цэхі саўгасаў, тэхнічныя прадпрыемствы і трактарныя калёны.

4) Абавязаць дырэкцыю трэстаў, кіраўнікоў і рабачкомаў саўгасаў ўстанавіць дакладны вучот зьдзельшчыны з тым, каб кожны зьдзельшчык ведаў вынікі сваёй работы не пазьней як раніцой на другі дзень.

5) Пленум рашуча патрабуе безадкладнай ліквідацыі абязьлічкі і замацаваньня штатных рабочых за жывёлай, с.-г. інвэнтаром, трактарамі, станкамі і паасобнымі зямельнымі вучасткамі. Пленум даручае прэзыдыуму хутка вырашыць пытаньне ў адпаведных органах аб пераходзе саўгасаў з 5-дзёнкі на 6-дзённы прарыўны тыдзень і шосты дзень скарыстаць як для тэхвучобы, так і прывядзеньня машын, с.-г. інвэнтару, збруі і г. д. у адпаведную спраўнасьць.

6) Адзначаючы зусім невыстарчальнае становішча ў саўгасах ў сэнсе разгортваньня вышэйшых форм сацспаборніцтва, як арганізацыя гасразьліковых брыгад і зьменна-сустрэчнага плянаваньня і г. д., пленум абавязвае рабачкомы ІТС і кіраўнікоў саўгасаў максымальна актывізаваць гэту работу на падставе дырэктыў прэзыдыуму (бюлетэнь № 10) з тым, каб у бліжэйшы час ня было ніводнага саўгасу без 3-5 гасразьліковых брыгад.

7) Улічваючы невыстарчальную работу па вывучэньні балянсу рабочай сілы, па арганізаваным наборы новых ра-

бочых, слабую барацьбу з цякучасьцю і г. д., пленум патрабуе ад трыкутнікаў саўгасаў безадкладнай рэалізацыі выкананьня 6 гістарычных умоў т. Сталіна.

8. Пленум таксама зварочвае асаблівую ўвагу як прэзыдыуму рэсп. к-ту, так рабачкомаў і дырэктароў саўгасаў на шырокае асьвятленьне ў друку ўсіх пытаньняў, зьвязаных з лепшай арганізацыяй працы ў саўгасах, вывучэньне ўзорных прыкладаў работы і распаўсюджваньне іх на астатнія саўгасы.

---

## ПАСТАНОВА

### прэзыдыуму Рэсп. К-ту Саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў аб ліквідацыі запазычанасьці па заработнай плаце рабочым саўгасаў

**ад 19 сьнежня 1931 г.**

Прызнаць абсалютна недапушчальным, калі неаднаразовыя і катэгарычныя дырэктывы прэзыдыуму Рэсп. К-ту саюзу значнай часткай дырэктароў саўгасаў **злосна ня выконваюцца** і генэральны калектыўны дагавор ігнаруецца.

У выніку бяздушных апартуністычных адносін гэтых дырэктараў саўгасаў запазычанасьць па заработнай плаце рабочым ня толькі не зьмяншаецца, але наадварот — яшчэ павялічваецца і даходзіць па саўгасах Малакапрамтрэсту да 650.000 руб. і па саўгасах „Сьвінаводу“—800.000 руб. Паасобныя-ж саўгасы гэту запазычанасьць давялі да 3-4 і больш месяцаў (саўгасы—„Перамога Сацыялізму“—71.000 р., „Батунь“—з верасьня м-ца, „Зорка захаду“—13.000 руб., „Вялень-Сінча“—48.000 руб., „Бялынічы“—37.000 руб., „Цірэвічы“—19.000 руб., „Мсьціж“—35.000 руб., „Замошша“—50.000 руб., „Комсомольская правда“—45.000 руб., „Чэрыкаў“—25.000 руб. „Банонь“ 34.000 руб. і г. д.).

Побач з нявыплатай заработнай платы, чым пагаршаецца матар'яльнае становішча рабочых, побач з нявыдачай рабачкомам установленых па калдагаворы налічэньняў, яшчэ назіраецца і тое, што значная частка дырэктароў саўгасаў несваячасова перасылае ў дзяржкасу грошы па падпісцы рабочых на пазыку „3-ці рашаючы год пяцігодкі," чым па сутнасьці недаацэньваецца справа індустрыялізацыі краіны і сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Усе гэтыя адносіны з боку дырэктароў саўгасаў прэзыдыум расцэньвае як праявы правага апартунізму на практыцы і гэтым самым нежаданьне выконваць адну з гістарычных умоў т. Сталіна, што „цяперашні рабочы, наш савецкі рабочы, ён хоча жыць са здавальненьнем усіх сваіх матар'яльных і культурных патрабаваньняў... і мы абавязаны выканаць гэтае яго патрабаваньне".

Прэзыдыум падкрэсьлівае, што саўгасы мелі і маюць усе магчымасьці, каб не дапусьціць запазычанасьці як па зарплаце, прафсаюзных налічэньнях, так і асабліва па сваячасовых адлічэньнях рабочых на пазыку „3-ці рашаючы год". Аднак дырэктары саўгасаў палітычна недаацанілі гэтай справы і ня прынялі адпаведных мер. Фонды зарплаты абязьлічваюцца, дырэктары трэстаў не ўстанавілі жорсткага апэрацыйнага фінкантролю і ня прымусілі кіраўнікоў саўгасаў ліквідаваць запазычанасьць.

Выходзячы з вышэйпаказанага, прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу РЖС пастанаўляе:

1) Катэгарычна патрабаваць ад дырэктара трэсту „Сьвінавод" т. Аўчыньнікава і Малакапрамтрэсту т. Сьмірнова безадкладна даць рашучае і канкрэтнае паказаньне дырэктарам саўгасаў аб поўнай ліквідацыі да 1-га студзеня 1932 г. усёй запазычанасьці па зарплаце рабочым саўгасаў, налічэньнях па калдагаворах і без затрымкі пераводзіць грошы па падпісцы рабочымі на пазыку „3-ці рашаючы год пяцігодкі". Устанавіць сыстэматычны кантроль над дырэктарамі саўгасаў у выкананьні гэтай дырэктывы. Спачатку 1932 г.



вылучыць устаноўлены прамфінплянам фонд зарплаты, як асобны фонд, не дапушчаючы яго абязьлічваньня і расходваньня на іншыя мэты.

2) Абавязаць рабачкомы ўсіх саўгасаў на падставе 6-ці ўмоў т. Сталіна мабілізаваць шырокія рабочыя масы і ІТР на бальшавіцкае выкананьне прамфінплянаў, узмацненьне фінансава-эканамічнага становішча саўгасаў, мабілізацыю ўнутраных рэсурсаў і на барацьбу з безгаспадарчасьцю і стратамі ў саўгасах.

3) Даручыць рабачкомам саўгасаў арганізаваць шырокі грамадзкі рабочы кантроль над сваячасовым узносам грошай па падпісцы рабочымі на пазыку „3-ці рашаючы год пяцігодкі“, а таксама і па ліквідацыі запазычанасьці як па заработнай плаце, так і налічэньнях па калдагаворах.

4) З прычыны тэй, што запазычанасьць па зарплаце рабочым набывае пагражаючае становішча, прасіць калегію Наркамзямляробства на чарговым пасяджэньні абмеркаваць гэта пытаньне і прыняць адпаведныя меры.

5) Прасіць НКПрацы БССР даць паказаньне сваім райінспэктарам аб тым, каб яны ўзялі пад свой асабісты нагляд справу па ліквідацыі запазычанасьці па зарплаце рабочым жывёлагадоўчых саўгасаў.

6. За сыстэматычную і злосную нявыплату заработнай платы на працягу 3-х і больш месяцаў аддаць пад суд дырэктара саўгасу „Комсомольская Правда“ тав. Прохарава.

Прасіць пракурора Рэспублікі тав. Леўкова даць тэрміновыя паказаньні адпаведным судова-сьледчым органам аб правядзеньні паказальных судоў над гэтымі дырэктарамі ў тых саўгасах, дзе яны працуюць.

Старшыня Рэсп. К-ту

МАНЖАЛЕЙ.

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму Рэсп. К-ту Саюзу РЖС па дакладу Нар. Кам. аховы здароўя аб мэдыка-санітарным абслугоўваньні рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў

Ад 19 сьнежня 1931

Заслухаўшы даклад Нар. Кам. аховы здароўя аб мэд-абслугоўваньні рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў, прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу РЖС адзначае:

1) Дырэктывы партыі і ўраду аб разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі, забесьпячэньне рабочай сілай жывёлагадоўчых саўгасаў патрабуюць ад НКАЗ карэннай рэарганізацыі і рашучага палепшаньня мэдыка-санітарнага абслугоўваньня жывёлагадоўчых саўгасаў, ад якой у значнай ступені залежыць пасьпяховае ажыцьцяўленьне гэтых дырэктыў.

2) Адзначыць, што ў справе мэдыка-санітарнага абслугоўваньня рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў за апошні час маюцца некаторыя дасягненьні ў сэнсе палепшаньня санітарнага становішча саўгасаў, аздараўленьне працы і быту рабочых і набліжэньне мэддапамогі да саўгасаў.

а) Значнае пашырэньне ўрачэбных, фэльчарскіх мэдпунктаў і пунктаў першай дапамогі ў жывёлагадоучых саўгасах (4 урач. мэдпункты, 28 фэльчарскіх, 3 пункты першай дапамогі.)

б) Прымацаваньне паасобных саўгасаў, ня маючых спэцыяльных мэдпунктаў, да лекава-прафіляктычных установ раёну па аказаньні мэддапамогі, і правядзеньне прафіляктычнай і санітарна-асьветнай работы.

в) Абслугоўваньне мэдбрыгадамі, пасылаемымі з буйных гарадоў ў час пасеўнай і ўборачнай кампаніі.

г) Забесьпячэньне жывёлагадоўчых саўгасаў аптэчкамі і індывідуальнымі пакетамі і павялічэньне іх у час пасеўнай і ўборачнай кампаніі.

д) Значна ўзрасла сетка сталых і сэзонных ясьляй і павялічыўся ахоп дзяцей ясельнага ўзросту ў жывёлагадоўчых саўгасах (у 1930 г. па ўсіх саўгасах БССР было 12 сталых ясьляй, 100 сэзонных, у 1931 г. сталых 37, сэзонных 113)

з) Разгорнута будаўніцтва 3 больніц і амбуляторый пры жывёлагадоўчых саўгасах.

ж)Вызначаны мерапрыемствы па прыстасаваньні існуючай мэдыка-санітарнай сеткі раёнаў для лепшага мэдабслугоўваньня саўгасаў, шляхам перасоўкі бліжэйшых мэдпунктаў і ўкамплектаваньня іх мэдпэрсаналам за кошт зьняцьця апошніх з мэдустаноў раёну.

з) Разам з гэтым неабходна адзначыць, што некаторымі раённымі органамі аховы здароўя невыстарчальна звярочваецца ўвага на вывучэньне захворваньня і правядзеньне прафіляктычнай санітарна-асьветнай работы ў жывёлагадоўчых саўгасах і ня ўцягнуты ўсе мэдпрацаўнікі раёну ў гэту справу, у выніку чаго маюцца наступныя недахопы:

а) Зусім мала робіцца рэгулярных выездаў урачоў раёну ў саўгасы для правядзеньня прафіляктычнай і санітарна-асьветнай работы і аказаньня больш кваліфікаванай мэддапамогі на месцы.

б) Не праводзіцца рэгулярны мэдагляд рабочых у саўгасах, вытвараючых пракдукцыі спажываньня, як: малако, масла, сыр.

в) Слаба ажыцьцяўляецца санітарны мінімум у саўгасах, ня створана грамадзкая думка навокал важнасьці гэтага пытаньня і не мабілізаваны рабочыя масы саўгасаў на ажыцьцяўленьне апошняга.

г) Адсутнічае плянавы санагляд за сталоўкамі, інтэрнатамі, студнямі, лазьнямі і г. д.

д) Слаба пастаўлена, а ў некаторых саўгасах зусім не арганізавана зубная дапамога.

е) Мэдпэрсанал некаторых раёнаў не заўсёды прытрымлі-

ваецца прынцыпу першапачатковага прыёму рабочых саўгасаў у лекава-прафілёктычных установах.

ж) Слабы ўдзел некаторых раённых органаў аховы здароўя і ўсяго мэдпэрсаналу ў арганізацыі сталых і сэзонных ясьляй пры саўгасах.

з) Адсутнічае рэгулярная справаздачнасьць органаў аховы здароўя ў жывёлагадоўчых саўгасах.

4) З боку трэстаў, загадчыкаў саўгасаў і рабачкомаў да гэтага часу не ўдзяляецца выстарчальнай увагі справе арганізацыі аховы здароўя ў саўгасах, а менавіта:

а) Рабачкомы, дырэктары паасобных жывёлагадоўчых саўгасаў перашкаджаюць практычнаму правядзеньню органамі аховы здароўя мерапрыемстваў па правядзеньні санмінімуму, паляпшэньні санітарнага становішча саўгасаў і г. д.

б) Рабачкомы некаторых саўгасаў не стварылі грамадзкай думкі навакол пытаньня арганізацыі ясьляй, не мабілізавалі мясцовых рэсурсаў па арганізацыі і ўтрыманьні апошніх.

в) Не прадстаўляюцца адпаведныя памяшканьні для ясьляй, мэдпунктаў і кватэр мэдпэрсаналу.

г) Несваячасова выдаткоўваюцца грошы, адпушчаныя на арганізацыю і ўтрыманьне ясьляй.

д) Дрэнна пастаўлена забесьпячэньне ясьляй і мэдпэрсаналу прадуктамі харчаваньня.

е) Тармозіцца вызначанае будаўніцтва НКАЗ лекава-прафіляктычных установ пры саўгасах.

Выходзячы з гэтага ў далейшым пры мэдыка-санітарным абслугоўваньні рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў неабходна правесьці наступнае:

1) На працягу бліжэйшага часу ў асноўным закончыць арганізацыю мэдпунктаў у жывёлагадоўчых саўгасах, урачэбных фэльчарскіх і пунктаў першай дапамогі, у залежнасьці ад буйнасьці таго, ці іншага саўгасу і адлегласьці апошняга ад існуючай мэдыка санітарнай сеткі з тым, каб

у 1932 г. было-б пабудавана і арганізавана больніц 5, мэдпунктаў—40, аптэк—100.

2) Улічваючы тое, што ў жывёлагадоўчых саўгасах ужываецца вялікі процант рабочай сілы жанчын на працягу ўсяго году, прадугледзець па пляне разгортваньне ясельнай сеткі, арганізацыю сталых ясьляй у жывёлагадоўчых саўгасах, разьлічаных на 100 проц. ахоп дзяцей ясельнага ўзросту.

3) Раённым органам аховы здароўя зьвярнуць максымум увагі на вывучэньне захворваньня і правядзеньне прафіляктычнай работы ў саўгасах, паступова пераводзячы ўсю працу на дыспансэрныя мэтады, для чаго ўстанавіць рэгулярныя выезды не радзей аднаго разу ў дэкаду ўрачоў раёну ў тыя саўгасы, якія ня маюць урачэбных пунктаў.

4) Палепшыць зубную мэддапамогу і арганізаваць гэткую ў тых саўгасах, дзе такая адсутнічае, шляхам пасылкі ў саўгасы зубных дактараў з буйных гарадоў і раённых цэнтраў на пэўны тэрмін для правядзеньня поўнай санацыі поласьці рота рабочых. У 1932 г. арганізаваць у саўгасах сталых 2 зубаурачэбных габінэты.

5) Устанавіць сталы саннагляд за становішчам саўгасаў мабілізуючы ўвесь мэдпэрсанал, арганізацыю Чырвонага Крыжу раёну і рабочыя масы саўгасаў, праз сацспаборніцтва і ўдарніцтва змагацца за правядзеньне ў жыцьцё санмінімуму, прыцягваючы да адказнасьці асоб, якія перашкаджаюць ажыцьцяўленьню гэтых мерапрыемстваў.

6) Рабачкомам разам з дырэктарамі саўгасаў аказваць поўнае садзейнічаньне органам аховы здароўя ў правадзімых мерапрыемствах, стварыўшы ў дапамогу апошнім у саўгасах здраўячэйкі, санкамісіі, актыў рабочых і г. д.

7) Рабачкомам разам з дырэктарамі саўгасаў прыняць усе захады да сваячасовага прадстаўленьня адпаведных памяшканьняў пад мэдпункты, яслі і забесьпячэньне мэдпэрсаналу кватэрамі, прамтаварамі і прадуктамі харчаваньня нараўне з рабочымі саўгасаў,

8) Сваячасова выдаткаваць грошы, адпушчаемыя на арганізацыю і ўтрыманьне ясьляй, а таксама ўстанавіць бесьперабойнае забесьпячэньне ясьляй прадуктамі харчаваньня згодна вызначаных норм, зьвярнуўшы максымум увагі на мабілізацыю мясцовых рэсурсаў, на лепшую арганізацыю і ўтрыманьне ясьляй.

9) У мэтах большага азнаямленьня і ўстанаўленьня рабочага кантролю за працай мэдустаноў, абслугоўваючых той ці іншы саўгас, устанавіць рэгулярную справаздачнасьць мэдпэрсаналу на пасяджэньнях рабачкомаў і агульных сходах рабочых.

10) Даручыць культмасаваму сэктару Рэсп. к-ту саюзу і ўсім рабачкомам саўгасаў сумесна з НКЗдравам прыняць безадкладныя меры да папаўненьня саўгаскіх бібліятэк адпаведнай літаратурай.

11) Лічыць неабходным у другой палове лютага месяца правесьці 1-ую ўсебеларускую канфэрэнцыю мэдпэрсаналу сумесна з прафпрацаўнікамі і дырэктарамі жывёлагадоўчых саўгасаў па пытаньнях мэдыка-санітарнага абслугоўваньня саўгасаў.

---

## ПАСТАНОВА

## прэзыдыуму рэспубліканскага камітэту саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў аб арганізацыі ў саўгасах ячэек таварыства вынаходзтва і разгортваньні работы па масавай рацыяналізацыі і вынаходзтве

**ад 19 сьнежня 1931 г.**

Рацыяналізатарскія мерапрыемствы і вынаходзтва зьяўляецца адным з асноўных сродкаў у справе індустрыялізацыі краіны і сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі

Вынаходзтва і рацыяналізацыя, на падставе сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, на фабрыках і заводах разгортваецца ў магутны масавы рух і пераносіцца ўжо ў саўгасы. Рабочы саўгасу т. Казлоўскі вышукаў бульбакапалку з самазборкай і сартоўкай, вышукаў дэзынфэкцыйную самаачыстку сьвіней, рабочы саўгасу „Малая Сьляпянка“ тав. Жукаў удасканаліў і рацыяналізаваў амэрыканскую сьвінапаілку. Ударнікамі, рабочымі і ІТР саўгасаў унесены сотні каштоўных рацыяналізатарскіх прапаноў, якія далі вялікі гаспадарчы эфэкт. Аднак прэзыдыум Рэсп. к-ту падкрэсьлівае, што ўсё гэта толькі пачатак, што работа па рацыяналізацыі і вынаходзтве ў саўгасах зьяўляецца далёка невыстарчальнай, гэта работа ў большасьці саўгасаў палітычна не дaацэньваецца і ня стала ў цэнтры ўвагі як рабочых камітэтаў, гаспадарнікаў, так і ўсіх грамадзкіх арганізацый.

Выходзячы з пастаноў партыі, вышэйстаячых прафсаюзных органаў і на падставе ніжэйдалучаемага часовага палажэньня аб ячэйках т-ва вынаходзтва, прэзыдыум Рэсп. к-ту саюзу РЖС п а с т а н а ў л я е:

1) Прапанаваць усім рабачкомам саўгасаў і мясцовым бюро ІТР разгарнуць шырокую масавую работу навакол задач і значэньня вынаходзтва і рацыяналізацыі ў жывёлагадоўчых саўгасах. На зьлётах ударнікаў, на рабочых сходах у вучастках, цэхах і брыгадах шырока прапрацаваць і папулярызаваць палажэньне аб ячэйках т-ва вынаходзтва.

2) На падставе шырокай масавай работы безадкладна прыступіць да вярбоўкі членаў ячэйкі таварыства вынаходзтва і не пазьней 1-га судзеня 1932 г. ва ўсіх саўгасах арганізацыйна аформіць ячэйкі таварыства вынаходзтва, забясьпечыўшы ім канкрэтнае практычнае кіраўніцтва і дапамогу як з боку рабачкомаў саўгасаў, так і мясцовых бюро ІТС.

3) Рабачкомам саўгасаў, пры актыўным удзеле ячэек таварыства вынаходзтва арганізаваць масавую распрацоўку сустрэчных плянаў рацыяналізацыі як па саўгасе цалкам, так і на вучастках, цэхах і брыгадах, асабліва зьвярнуўшы

ўвагу на ўвядзеньне прасьцейшай мэханізацыі — прыгатаваньне і падача кармоў, водазабесьпячэньне, падвесны дарогі і г. д.

4) Рабачкомам саўгасаў сумесна з гаспадарнікамі, мясцовымі бюро ІТС і ячэйкамі вынаходства безадкладна сыстэматызаваць унесеныя рацыяналізатарскія прапановы, вызначыць пэрсанальна асоб адказных за правядзеньне іх у жыцьцё і ўстанавіць грамадзкі кантроль над сваячасовым іх выкананьнем.

5) Даручыць ЦБ ІТС Рэсп. к-ту саюзу ў сваім складзе арганізаваць спэцыяльнае бюро па навуковай і тэхнічнай кансультацыі саўгаскіх ячэек таварыства вынаходства.

6) Даручыць усім насценгазэтам і шматтыражкам у саўгасах, а таксама і газэце „Селгасрабочы Бел". арганізаваць спэцыяльны „куток вынаходства і рацыяналізацыі".

7) Даручыць дырэктаром трэстаў „Сьвінавод" і Малакапрамтрэсту ўнесьці на бліжэйшае пасяджэньне прэзыдыуму канкрэтныя прапановы аб арганізацыі экспэрымэнтальных майстэрань пры буйных саўгасах і навукова-дасьледчых інстытутах.

8) Абавязаць усе рабачкомы саўгасаў систэматычна кожныя 10 дзён падрабязна інфармаваць прэзыдыум Рэсп. к-ту аб выкананьні гэтай пастановы.

---

*Газ. „Труд" ад 29-V-31 г.*

# ЧАСОВАЕ ПАЛАЖЭНЬНЕ АБ ЯЧЭЙЦЫ ТАВАРЫСТВА ВЫНАХОДЦАЎ У САЎГАСЕ

## 1. Мэты і задачы ячэйкі

1. Для стварэньня найлепшых умоў у разьвіцьці і выкарыстоўваньні масавай тэхнічнай творчасьці, узмацненьня тэхнічнай дапамогі прадпрыемства, разьвіцьця грамадзкай і

тэхнічнай самадзейнасьці вынаходцаў і ўзмацненьня барацьбы за практычнае выкарыстаньне прапаноў і вынаходзтваў, пры рабачкомах арганізуюцца ячэйкі т-ваў вынаходцаў, якія вядуць сваю работу пад кіраўніцтвам арганізатара вытворчай нарады пры рабачкомах. Ячэйкі аб'яднаюць вынаход цаў, рабочых, служачых і інжынэрна-тэхнічных работнікаў якія ўдасканальваюць і цікавяцца, а таксама актыўна садзейнічаюць разьвіцьцю вынаходзтва.

## II. Дзейнасьць ячэйкі

2. Практычная дзейнасьць ячэйкі накіроўваецца на ўдасканаленьне і паляпшэньне тэхнікі вытворчасьці свайго прадпрыемства. Ячэйка павінна выяўляць адсталыя тэхнічныя мэтады і прыёмы на вытворчасьці, імкнуцца заняць іх больш лепшымі, здольнымі ўзьняць прадукцыйнасьць працы і палегчыць працу рабочага. З гэтай мэтай яна абавязана ведаць характар і асаблівасьці сваёй вытворчасьці, існуючыя ў ім тэхнічныя мэтады, спосабы і прыёмы, іх дадатныя бакі і недахопы.

3. Каб прапанаваць правільныя і тэхнічна-абаснаваныя сродкі, накіраваныя на ўзмацненьне тэхнічнай магутнасьці прадпрыемстваў, ячэйка абавязана павышаць кваліфікацыю і тэхнічны ўзровень сваіх членаў і імкнуцца да штодзённай увязкі сваёй творчай дзейнасьці з работай навукова-дасьледчых і рацыяналізатарскіх органаў ударных брыгад і вытворчых нарад.

4. Ячэйка прымае актыўны ўдзел у распрацоўцы тых выданьняў па вынаходзтве і ўдасканаленьні, якія неабходны для прадпрыемства.

5. Па сваёй ініцыятыве і па заданьнях рацыяналізатарскіх органаў прадпрыемства, ячэйка стварае спэцыяльныя ўдарныя брыгады вынаходцаў для зьнішчэньня тэхнічных недахопаў вытворчасьці прадпрыемства і выпушчаемай прадукцыі.

6. Аказвае садзейнічаньне вынаходніцкім органам на прадпрыемствах ў распрацоўцы, тэхнічным афармленьні і ўнядрэньні ў вытворчасьць карысных вынаходніцтваў і ўдасканаленьняў, незалежна ад таго, ці прапанавана яно з ліку працуючых ці не працуючых на даным прадпрыемстве вынаходцаў і ўдасканальваючых.

7. Арганізуе нагляд і грамадзкі кантроль за дзейнасьцю мясцовых органоў, якія маюць адносіны да вынаходніцкай справы на прадпрыемстве (БРІЗ, заводакіраўніцтва, экспэрымэнтальныя майстэрні, лябараторыі і г. д.). Сачыць за сваячасовым правядзеньнем у жыцьцё ўсіх прынятых заводакіраўніцтвам карысных прапаноў. Арганізуюць шэфства над асобнымі найбольш каштоўнымі вынаходкамі.

8. Шырока папулярызуюць усе вышаўшыя пастановы ўраду, партыі і прафорганаў па вынаходніцтве, ў прыватнасьці ў адносінах ільгот, прадстаўляемых вынаходцам. Вядзе прапаганду за разьвіцьцё вынаходніцтва, арганізуе агляды конкурсу і г. д.

9. Арганізуе дапамогу і садзейнічае ў пастаноўцы вынаходніцкай і рацыяналізатарскай работы ўдарных брыгад, рацыяналізатарскіх груп і вытворчых калектываў. Дапамагае разьвіцьцю сацспаборніцтва паміж імі на большыя дасягненьні па вынаходніцтве.

10. Выяўляе выпадкі цеганіны, сабатажу ў ажыцьцяўленьні вынаходцтваў, косных, бяздушных адносін і траўлі вынаходцаў. Вядзе барацьбу з гэтымі зьявішчамі, зьяўляецца ініцыятарам у арганізацыі паказальных судоў над валакітчыкамі, шкоднікамі рабочага вынаходніцтва.

11. У тых выпадках, калі ідэі і прынцыпы ўкладзеныя аўтарам вынаходніцтва ў працэс прапрацоўкі і ажыцьцяўленьня скажаюцца ці ня глёдзячы на дадатныя водгукі вынаходцтва ня прымаюцца, сабатуюцца, ячэйка можа праводзіць сумесныя з заводакіраўніцтвам экспэртызы. Распрацоўка і афармленьне эскізаў і чарцяжоў на вынаходзтва

а таксама вылучаць спэцыяльныя наглядальныя камісіі за прасоўваньнем і ажыцьцяўленьнем вынаходніцтва.

Для выкананьня гэтых мерапрыемстваў, ячэйка арганізуе добраахвотныя групы тэхнічнай і прававой кансультацыі чарцёжна-канструктарскія групы з ліку працуючых на прадпрыемствах рабочых і тэхпэрсаналу, прыцягваючы апрача добраахвотнікаў студэнтаў ВНУ і ВТНУ, навукова-тэхніч. працаўнікоў, студэнцкія арганізацыі НТО і інш.

12. Ячэйка аказвае дапамогу сваім членам у прававых адносінах пры запатэнтаваньні іх вынаходзтва, прымае ўдзел у вырашэньні зьвязаных з гэтым канфліктаў, разьбірае спрэчкі аб аўтарах і дапамагае сваім членам ў атрыманьні законнай прэміяльнай узнагароды і заахвочваньня іх творчасьці, аказвае садзейнічаньне ў заключэньні калектыўных і індывідуальных дагавароў паміж вынаходцамі і прадпрыемствам па пытаньнях зьвязаных з вынаходніцкай работай.

13. На аснове асобнага палажэньня ВСНГ СССР і УсеЦСПС, ячэйка прымае меры праз органы дапамогі вынаходніцтву і праворганы, каб за час прапрацоўкі ажыцьцяўленьня гэтых прапаноў, вынаходцы аслабаняліся ад сваёй службовай работы, з захаваньнем сярэдняга заработку, за кошт свайго прадпрыемства, ці гаспадарчага абяднаньня, якое зацікаўлена ў ажыцьцяўленьні данай прапановы.

14. Праз рабачкомы і вышэйстаячыя саюзныя органы ячэйка ўздымае пытаньні:

а) аб пераводзе найбольш карысных вынаходцаў на работу па асноўнай спэцыяльнасьці ў экспэрымэнтальныя цэхі, канструктарскія бюро, навукова-тэхнічн. органы свайго прадпрыемства і навукова-дасьледчыя інстытуты.

б) аб вылучэньні вынаходцаў на сталую работу ў органы рацыяналізацыі і вынаходніцтва на сваім прадпрыемстве і па-за ім.

в) аб камандыраваньні па абмену тэх. вопытам на выстаўкі, экскурсіі, тэх. узорныя прадпрыемствы, навукова-дасьледчыя інстытуты і іншыя камандыроўкі.

г) Аб пасылцы ў першую чаргу на тэхнічную вучобу ў тэхнікумы і ВТНУ.

15. Арганізуе абмен тэхнічных дасягненьняў і вынаходніцтваў з аналёгічнымі па вытворчасьці прадпрыемствамі.

16. Праз сваіх прадстаўнікоў прымае ўдзел у дзейнасьці ўстановы і арганізацыі ў галіне вынаходніцтва.

17. Вядзе вучот вынаходніцкіх сіл прадпрыемства, вучот тэхнічных дасягненьняў і эканамічнага эфэкту і вынікаў тэхнічнай дзейнасьці ячэйкі.

## III. Склад ячэйкі

18. Ячэйка, арганізуючыся ў асноўным з добраахвотна паступаючых у члены таварыства рабочых вынаходцаў, удасканальваючых, рацыяналізатараў, прымае ў лік членаў ячэйкі таксама і актыўна дапамагаючых справе вынаходніцтва рабочых, служачых і інжынэрна-тэхнічных працаўнікоў. Членамі ячэйкі могуць быць толькі члены прафсаюзу.

## IV. Правы і абавязкі членаў ячэйкі

19. Кожны член ячэйкі карыстаецца правам рашаючага голасу і быць выбраным ў кіруючыя органы ячэйкі, на канфэрэнцыі вынаходцаў, выбіраецца для прадстаўніцтва ў вынаходніцкія органы і розныя грамадзкія арганізацыі, якія ставяць сабе аналёгічныя мэты.

20. Усе члены ў аднолькавай меры карыстаюцца правам на садзейнічаньне і абарону сваіх інтарэсаў і правоў з боку ячэйкі ў адносінах запатэнтаваньня, распрацоўкі і ўнядрэньня ў вытворчасьць іх прапаноў, а таксама ў сэнсе ўзьняцьця іх навукова-тэхнічнай кваліфікацыі і абароны ўсіх законных асабістых правоў.

21. У сваёй штодзеннай рабоце кожны ўдзельнік ячэйкі павінен дапамагаць справе сац. будаўніцтва, ня толькі сваёй асабістай тэхнічнай творчасьцю, але і актыўным удзелам у рабоце ўдарных брыгад, вытворчых нарад і іншых грамадзкіх арганізацый.

## V. Арганізацыя ячэйкі

22. Пры наяўнасьці на прадпрыемствах буйных цэхаў, якія налічваюць ня менш 20 чал. членаў таварыства вынаходцаў, стварающца цэхавыя ячэйкі, пры меншай-жа колькасьці членаў таварыства ствараецца адна агульнасаўгасная ячэйка таварыства, якая праводзіць сваю работу пад агульным кіраўніцтвам рабачкому (яго вытворчы сэктар) і вышэйстаячых органаў таварыства, а пры наяўнасьці фабрычна-заводзкага савету пад кіраўніцтвам апошняга і цэхкому.

23. Кіруючым органам ячэйкі зьяўляецца агульны сход, склікаемы не радзей аднаго разу ў два месяцы, якія сапраўдныя пры наяўнасьці на іх $^{2}/_{3}$ агульнай колькасьці членаў ячэйкі.

24. Для сталага кіраўніцтва і арганізацыі ўсёй работы, а таксама ажыцьцяўленьня ўсёй бягучай выканаўчай работы, на агульным сходзе членаў ячэйкі выбіраецца бюро ячэйкі ў складзе ад 5 да 9 чал. членаў і кандыдатаў у колькасьці 2 чал. і рэвізійная камісія ў складзе 3-х чал. і 2-х кандыдатаў.

25. Пры арганізацыі цэхавых ячэек на прадпрыемстве, кіруючым органам таварыства зьяўляецца агульна-саўгаскі савет таварыства, выбіраемы агульна-саўгаскай канфэрэнцыяй членаў таварыства ў складзе ад 9 да 15 чал. членаў і 3-х кандыдатаў.

26. Бюро ячэйкі і савет выбіраюцца тэрмінам ня больш аднаго году і за свае дзейнічаньні адказны: перад агульным сходам членаў ячэйкі, рабачкомам і вышэйстаячымі органамі таварыства.

## VI. Сродкі ячэйкі (савету).

27. Ячэйка і савет таварыства ўтрымоўваюцца і праводзяць сваю работу за кошт:

а) 30 проц. ад сумы 10 проц. адлічэньняў таварыству з фонду садзейнічаньня вынаходзтву і рацыяналізацыі.

б) Членскіх і ўступных узносаў (членскі ўзнос—15 кап. у месяц уступны—50 кап., ад асоб атрымліваючых да 100 руб. у месяц і 1 руб. звыш 100 р. у месяц.

в) Іншых паступленьняў (добраахвотныя адлічэньні вынаходцаў атрымліваемых прэмій і інш.).

28. Прадпрыемства прадстаўляе ячэйцы асобнае памяшканьне („куток вынаходцаў", „вытворчы пакой") для сходаў і арганізацыі ў ім ўсіх работ ячэйкі.

---

## Усім Рабачкомам, Мясцкомам, Прафкомам і Рэвізійным камісіям Саюзу РЖС.

### Аб нормах выдаткаў да атрыманьня зацьверджаных каштарысаў у 1932 годзе.

На запытаньне рабачкомаў аб нормах выдаткаў у 1932 г. Бел. Рэсп. к-т саюзу РЖС прапануе да зацьверджаньня каштарысаў кіравацца наступным:

1) Да атрыманьня В. каштарысу, зацьверджанага Рэсп к-там саюзу, грошы расходаваць па нормах каштарысу мінулага 1931 г. (па пэнсіі арг. выдатках і культасьветнай рабоце).

2) Браць дадатковых работнікаў, непрадугледжаных каштарысам 1931 г., катэгарычна забараняецца.

3) Рэвізійныя камісіі павінны сачыць за расходваньнем грошай рабачкомамі па нормах каштарысу 1931 г. і аб нарушэньнях тэрмінова паведамляць Рэсп. к-т.

4) Папярэджваем, што за парушэньне нашай дырэктывы вінаватыя будуць прыцягнуты да адказнасьці сумесна з рэўкамісіямі, якія не сыгналізавалі Рэсп. к-ту саюзу РЖС

5) Адначасова прапануецца тэрмінова даслаць каштарысы на 1932 г. на зацьверджаньне Рэсп. к-ту Саюзу.

Заг. Фінсэктару КРАЎЧАНКА.

Бухгальтар ЧАРНУХА.

---

# ПАСТАНОВА

## Усебеларускай нарады дырэктароў саўгасаў, сумесна з прадстаўнікамі партыйных, прафсаюзных арганізацый і працаўнікоў вучоту па дакладам т.т. Харламава і Аўчыньнікава аб папярэдніх выніках выкананьня прамфінпляну за 1931 год і задачах на 1932 г.

Пад непасрэдным кіраўніцтвам ленінскай партыі і яе ЦК у рашучым змаганьні супроць апартуністаў усіх колераў дасягнуты вялізарнейшыя посьпехі індустрыялізацыі краіны, забясьпечан пуск новых 518 фабрык і заводаў, 1040 МТС На базе суцэльнай калектывізацыі ліквідуецца кулацтва як кляса, забясьпечана арганізацыя новых саўгасаў, разгортваецца сацыялістычная жывёлагадоўля, як цэнтральная задача ў галіне сельскай гаспадаркі „1931-32 г. павінны быць гадамі такога-ж пераломy ў галіне разгортваньня сацыялістычнай жывёлагадоўлі, якімі былі 1929-30 гады у справе арганізацыі сацыялістычнай збожжавай гаспадаркі“.

Усебеларуская нарада дырэктароў, сакратароў парт. ячэек, партыйных камітэтаў і старшынь рабачкомаў адзначае, што саўгасамі „Сьвінавода“ за кароткі тэрмін іх

існаваньня ва ўсім Савецкім Саюзе дасягнуты значныя. посьпехі ў разьвіцьці сацыялістычнай сьвінагадоўлі. Толькі ў БССР плошча пад саўгасамі даведзена да 160.000 га, маецца 73.000 агульнага пагалоў'я сьвіней з іх 30,000 сьвінаматак. Аднак посьпехі ў разьвіцьці сацыялістычнай сьвінагадоўлі за гэтыя гады ня могуць задаволіць запатрабаваньняў рабочае клясы ў справе вырашэньня мясной праблемы і зьяўляецца толькі пачаткам барацьбы за сацыялістычныя фабрыкі мяса, што падкрэсьліваецца невыкананьнем прамфінплянаў у важнейшых рашаючых паказчыках за 1931 г. Нарада асабліва падкрэсьлівае наяўнасьць у саўгасах наступных прарываў:

а) Зрыў злучной кампаніі ў асобным квартале 1930 г і па большай колькасьці савецкіх гаспадарак у 1931 г.

б) Наяўнасьць буйнейшых страт у галіне сьвінагадоўлі ў выніку як вялікага процанту ялавасьці, так і ў выніку адходу 38,4 проц. парасят, 29 проц. малядняка, 10 проц. дарослых сьвіней, а таксама і ў выніку невыстарчальнага прыросту.

в) Зусім невыстарчальнае становішча са здачай таварнай прадукцыі (55,9 проц. па колькасных паказчыках), а па паасобных савецкіх гаспадарках прамы зрыў гэтага пляну пры наяўнасьці да самага апошняга часу простага разбазарваньня таварнай прадукцыі.

г) Невыстарчальнае стварэньне кармавой базы, выкананьне сіласаваньня толькі на 48 проц. і наяўнасьць таксама простага разбазарваньня кармоў.

д) Раскіданасьць, бясьплянавасьць будаўніцтва, нізкая якасьць работы, высокі кошт будаўніцтва, наяўнасьці буйнейшай безгаспадарчасьці ва ўсіх галінах вялікай колькасьці саўгасаў.

Усе гэта зьяўляецца вынікам невыкананьня савецкімі гаспадаркамі 6-ці асноўных рашаючых умоў пастаўленых тав. Сталіным на нарадзе гаспадарнікаў, наяўнасьці такога

становішча пры якім сьвінагадоўля яшчэ не пастаўлена ў цэнтры ўвагі трыкутніка ўсіх саўгасаў, поўнасьцю не мабілізавана актыўная барацьба мас за 100 проц. своечасовае і высокаякаснае выкананьне прамфінпляну, у выніку засьмечанасьці раду саўгасаў кулацкім і сацыяльна-варожым элемэнтам.

Адзначаючы, што кантрольнымі лічбамі Сьвінаводаб'яднаньня на 1932 г. прадугледжваецца:

а) Давядзеньне агульнай тэрыторыі пад саўгасамі БССР да 200.000 га, у тым ліку пахаці 120.000, абсеменіць вясной 1932 г. ня менш 78.000 га.

б) Давесьці пагалоў'е сьвіней у 1932 г. да 265.000 галоў у тым ліку сьвінаматак ня менш 56.000 галоў.

в) Здача дзяржаве ня менш 180.000 галоў таварных сьвіней, з сярэдняй вагой ня менш 90 кгр. і ня менш 2.327 цэнтнэраў малака.

г) Выканаць 15 мільённую праграму будаўніцтва ў тым ліку жыльлёвага і культурна-бытавога ня менш як на 3 мільёны 100 тысяч рублёў.

д) Правядзеньне вялікіх прац па барацьбе за высокія якасныя паказчыкі, рэзкае павялічэньне прадукцыйнасьці сьвінагадоўлі, ураджайнасьці палёў і ўдойнасьці буйнае рагатае жывёлы.

Выходзячы з гэтых задач і фактычнага становішча выкананьня прамфінпляну, Нарада аб'яўляе сьнежань месяц ударным месячнікам па рэалізацыі пастаноў пленумаў ЦК і ЦКК, поўнай рэалізацыі 6-ці рашаючых умоў тав. Сталіна, ліквідацыі прарываў прамфінпляну 1931 г. і баявой падрыхтоўкі да правядзеньня 4-га, завяршаючага году пяцігодкі, асабліва па выкананьні задач поўнай здачы таварнай прадукцыі, 100 проц. правядзеньня злучной кампаніі і поўнага захаваньня стада, асабліва парасят, падрыхтоўкі да вясны 1932 г. для стварэньня ўласнай, таннай кармовай базы і своечасовага выкананьня плянаў будаўніцтва. Нарада

аб'вяшчае сябе мабілізаванай на пасьпяховае выкананьне задач 1931 і 1932 г. абавязваючыся мабілізаваць на барацьбу за гэтыя задачы самыя шырокія масы савецкіх гаспадарак і ў якасьці канкрэтных задач забясьпечыць:

1. Такое становішча работы пры якім сьвінагадоўля неадкладна будзе пастаўлена сапраўды ў якасьці цэнтральнай вядучай галіны з поўным, сваячасовым з максымальна высокімі якаснымі паказчыкамі выкананьня плянаў у галіне сьвінагадоўлі, пры якім сьвінар, сьвінарка, пастух, як вядучая прафэсія, будзе пастаўлена ў цэнтры ўвагі працы трыкутніка ў лепшыя матар'яльна-бытавыя ўмовы, забясьпечваючыя самую высокую вытворчасьць і якасьць працы.

2. Не дапусьціць пераходу на 1932 г. ні аднэй не пакрытай падлягваючай пакрыцьцю сьвінаматкі. паставіўшы злучную ампанію ў якасьці аднае з цэнтральных гаспадарча-палітычных задач, што ставяць перад саўгасамі.

3. Паставіць захаваньне маладняка і ліквідацыю страт праз барацьбу з ялавасьцю, упартую барацьбу за захаваньне кожнага парасяці, хутчэйшы выраст у якасьці сапраўды баявых задач, рашаючых прамфінплян, на вырашэньне якіх павінны без безадкладна выкананы кругласутачнай работай, зьменнымі брыгадамі задачы ўцяпленьня сьвінарнікаў, забесьпячэньне падсьцілкай, вадой, апалам арганізацыя сапраўды правільнага догляду, поўнае выкананьне ветэрынарна-зоатэхнічных патрабаваньняў, якія зьмешчаны ў загадзе тав. Рачыцкага і інструкцыі праўленьня „Сьвінавод“ па захаваньні апаросаў. Нарада катэгарычна патрабуе ад Белсельбуду дачы дырэктыў безадкладнага пераключэньня патрэбнай колькасьці будаўнічых атрадаў на фарсаванае аканчэньне пачатых будынкаў і іх поўнае ацяпленьне.

4. Нарада катэгарычна патрабуе ад усіх адстаючых саўгасаў і абавязваецца прыняць усе меры поўнай гарантыі выкананьня плянаў здачы таварнай прадукцыі, спыненьня

малейшага разбазарваньня мяса, малака ў якім-бы там ні было выглядзе, забясьпечаньне сапраўды фарсаванага адкорму з выкананьнем плянаў здачы ня толькі па асноўнай прадукцыі, але і па мабілізацыі ўсіх другарадных таварных прадуктаў. Нарада з асаблівай рэзкасьцю падкрэсьлівае каштоўнасьць ініцыятывы ўдарніка калектыву саўгасу „Комсомольская Правда“ барацьбы за тону апаросу, адзначае ігнараваньне гэтай прапановы да апошняга часу большасьцю саўгасаў і абавязваецца прыняць сапраўды рэальныя меры арганізацыі барацьбы за ажыцьцяўленьне гэтага лёзунгу ў кожным саўгасе. У мэтах барацьбы за сапраўды танны сабекошт таварнай прадукцыі, правесьці рашучую эканомію кармоў як у гаспадарцы, так і па дастаўцы з чыгуначных станцый, забясьпечыўшы самую высокую прадукцыйнасьць і якасьць працы сьвінароў. Нарада падкрэсьлівае наяўнасьць перабойнага і аднастайнага забесьпячэньня кармамі, ставіць перад трэстам зусім канкрэтную задачу забесьпячэньня рознастайнымі кармамі і стварэньня ня менш месячнага рэзэрву кармоў па кожным саўгасе.

5. Выкананьне праграмы будаўніцтва патрабуе фарсаванага будаўніцтва ўсю зіму, сапраўды баявой падрыхтоўкі матар‘ялаў, паставіць у цэнтры выкананьня гэтых задач якасьць і сапраўды танны сабекошт будаўніцтва і максымальнае прымяненьне мясцовых будаўнічых матар‘ялаў. Нарада патрабуе ад кіраўніцтва трэсту „Сьвінавод“ і Белсельбуду сапраўды сваячасовага забесьпячэньня нарадамі на будаўнічыя матар‘ялы на 1932 г. гарантуючы іх баявую рэалізацыю. Нарада з усёй рашучасьцю падкрэсьлівае адставаньне жыльлёвага будаўніцтва і ставіць патрабаваньне паставіць гэтую задачу на ўзровень з агульным ростам сьвінасаўгасаў.

6. Нарада патрабуе хутчэй рэарганізаваць сыстэму кіраўніцтва дыфэрэнцыюючы да кожнага саўгасу палепшаньне

жывой сувязі з саўгасамі і абавязваецца забясьпечыць па-баявому рэалізацыю 6-ці ўмоў тав. Сталіна, сапраўды забясьпечыўшы арганізаваны набор рабочай сілы, неадкладна ачысьціўшы саўгасы ад кулацкіх і другіх сацыяльна-варожых элемэнтаў, безадкладна дабіўшы зьлейшага ворага — абязьлічку, поўнасьцю ўкараніўшы на ўсіх работах зьдзельна-прагрэсыўную сыстэму аплаты працы, ліквідаваўшы цякучасьць, сапраўды забясьпечыўшы ўнядрэньне гаспадарчага разрахунку, праз поўны перавод на цэхавы гаспадарчы разрахунак усіх саўгасаў не пазьней 1-га студзеня 1932 г.

7. Адзначаючы, што якасьць падрыхтоўкі кадраў яшчэ невыстарчальная, у паасобных дырэктароў маецца яўная недаацэнка маладых спэцыялістаў, што ўмовы працы ў большасьці савецкіх гаспадарак спэцыялістам яшчэ ня створаны, барацьба за аўладаньне тэхнікай шырачайшымі масамі рабочых і падрыхтоўка кадраў масавай кваліфікацыі не пастаўлены ў якасьці цэнтральных задач, у сувязі з чым Нарада ад трэсту і кожнага трыкутніка савецкай гаспадаркі патрабуе рашучага палепшаньня працы курсаў, разгортваньня сапраўды баявога паходу за аўладаньне тэхнікай, ахопу ў самы бліжэйшы час тэхнічнай падрыхтоўкай усіх рабочых, стварэньня ўмоў максымальна-вытворчай працы спэцыялістам саўгасаў. Нарада асабліва патрабуе ўсебаковага палепшаньня працы Саўгасвучаў і рашучага палепшаньня матар'яльна-бытавых умоў вучняў.

8. У якасьці аднэй з актуальнейшых задач саўгаскіх трыкутнікаў зьяўляецца арганізацыя рэальнай дапамогі арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў, заключэньне дагавароў з калгасамі на ўзаемадапамогу, выходзячы з задачы, што толькі шлях дагавароў з калгасамі і калгасьнікамі будзе гарантыяй забесьпячэньня патрэбнай рабочай сілай.

9. Нарада даручае паставіць пытаньне перад урадавымі органамі і абавязваецца прыняць меры непасрэдна аб рашучым

палепшаньні працы каапэрацыі па рабочым забясьпечаньні, большым ахопе грамадзкім харчаваньнем, палепшаньні якасьці харчаваньня, арганізацыі ва ўсіх саўгасах адкормачных пунктаў, недапушчэньні зьмяншэньня норм, устаноўленых Наркамснабам, і малейшай запазычанасьці па заработнай плаце.

11. Нарада з асаблівай рэзкасьцю падкрэсьлівае неабходнасьць максымальнай мэханізацыі саўгасаў, забясьпечыўшы ў першую чаргу выкарыстаньне ўсіх прасьцейшых мэханізмаў, маючыхся ў саўгасах.

11. Нарада патрабуе ад трэсту лепшага забесьпячэньня супроцьпажарным інвэнтаром, а ад саўгасаў сапраўды надзейнай супроцьпажарнай аховы, абавязковай арганізацыі супроцьпажарных дружын, баявой гатоўнасьці інвэнтару.

Адказны рэдактар—КРАЎЧАНКА
Выдавецтва—Рэспубліканскі к-т саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў.








Галоўлітбел № 3245. Тыраж 500. Зак. 40. Друкарня Камвузу